

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 2(61) Люты 1999 February Год выд. 7.


## Дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання прызначылі правядзенне прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі на 16 мая 1999 года

Чарговыя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі павінны адбыцца 16 мая 1999 года. Кіруючыся артыкуламі 83 і 97 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама артыкуламі 8 і 10 Закона аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, такое рашэнне аднагалосна прынялі 44 дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання на прайшоўшым 10 студзеня пасяджэнні ў Мінску.

Апрача гэтага, удзельнікі пасяджэння пастанавілі ўтварыць Цэнтральную камісію па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у складзе 19 чалавек на чале з Віктарам Ганчаром. У склад Цэнтрвыбаркама ўвайшлі такія вядомыя ў Беларусі асобы, як Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Георгій Таразевіч, дэпутат Мінскага гарсавета Алег Волчак, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Барыс Гюнтэр і іншыя. Прэзідыуму Вярхоўнага Савета сумесна з Цэнтрвыбаркамам даручана ўнесці на разгляд Вярхоўнага Савета пералік арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў кіраўніка беларускай дзяржавы.

Дадзеная пастанова ўступае ў сілу з моманту яе прыняцця і будзе накіраваная ўсім дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, каб тыя, хто па ўважлівых прычынах не змог узяць удзел у пасяджэнні 10 студзеня, змаглі б да яе далучыцца.

Старшыня ВС Сямён Шарэцкі ў сваім выступленні на пасяджэнні асабліва падкрэсліў, што ў 1994 годзе народ галасаваў за Аляксандра Лукашэнку як за прэзідэнта Беларусі тэрмінам на пяць гадоў і ніякія рэферэндумы замяніць прамыя выбары не могуць. З гэтай нагоды спікер адзначыў са станоўчага боку прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева, які мог бы, як і беларускі лідэр, прадоўжыць тэрмін уласных паўнамоцтваў шляхам рэферэндуму, але свядома пайшоў на праверку сваёй легітымнасці праз прэзідэнцкія выбары.

Старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар адмовіўся каменціраваць нядаўнюю заяву прэс-службы Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, у якой утрымліваліся пагрозы ў адрас ініцыятараў правядзення прэзідэнцкіх выбараў. Ганчар падкрэсліў, што "заява прэс-службы рэспубліканскай пракуратуры не грунтуецца на беларускім заканадаўстве".

Старшыня ЦВК паведаміў, што на першым пасяджэнні яго камісіі будзе прынята рашэнне аб стварэнні спецыяльнага фонду, у які грамадзяне і арганізацыі змогуць пералічваць сродкі на правядзенне выбараў. Па словах В.Ганчара, будзе складзены адпаведны каштарыс расходаў, значна меншы, чым калі б сродкі на гэта выдзяляліся з дзяржбюджэту. Ён падкрэсліў, што ЦВК абавязкова даможацца міжнародных гарантый бяспекі для яе членаў. Рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь пачнецца 1 сакавіка гэтага года, паведаміў кіраўнік Цэнтрвыбаркама.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**



**Сп. Франьцішк БАРТУЛЬ —**

старшыня Фундацыі ім. Пётры Крэчэўскага, заступнік старшыні БАЗА, ведамы грамадзкі і палітычны дзеяч, вялікі патрыёт беларускага народу.

Дарагі Франьцішк! Віншуем з 80-мі ўгодкамі жыцьця і жадаем Табе добрага здароўя і памыснасьці ў далейшай працы на дабро Бацькаўшчыны.



Калісь над Бярозкамі ў Сьвеце Старым
З Божае ласкі ўспыхнула Зорка,
Каб весьці ад Дзьвінску праз Вільню і Рым
Спачатку ў Лёндан, затым да Нью-Ёрку.

Зьмянілася ўсё з той далёкай пары
Пад вечнай Нябёснаю Брамаю
Адно толькі Зорка зіхціць у гары
Нязьменная... Тая самая.

Віншую зь Днём Нараджэньня.
Сяржук.
5 лістападу 1998г. Прага.

## БЕЛАРУСКАЯ АПАЗЫЦЫЯ ПАТЭСТУЕ СУПРАЦЬ 'РАСЕЙСКАЕ АКУПАЦЫІ'

На прапанову БНФ больш як 4000 беларусаў сабраліся ў Менску 22-га студзеня г. г. каб выступіць супраць аб'яднаньня Беларусі і Расеі. "Мы пачынаем другую хвалю акцыяў беларускіх людзей у абарону нашае дзяржавы. Да часу мы не патрабуем брацца за зброю, каб наблізіць Беларусь да цывілізаванае Эўропы", сказаў Лявон Баршчэўскі да сабраных. "Мы змагаемся не супраць рускіх рабочых і сялян, а супраць руска-азыяцкае мафіі, якая патрабуе транспартны калідор праз Беларусь", сказаў Алег Трусаў. Пратэстанты ўхвалілі вельмі кароткую рэзалюцыю, якая чытаецца: "НЕ РАСЕЙСКАЙ АКУПАЦЫІ". Паведамляецца, што больш як 70 пратэстаў супраць беларуска-расейскага аб'яднаньня прайшло ў розных гарадох Беларусі на наступны дзень.

* * *

У дзесятку рэгіёнаў Беларусі рабочыя ўтварылі страйкавыя камітэты пад кіраўніцтвам Сяргея Антончыка. Камітэты дамагаюцца вольнага доступу да кантраляванага Лукашэнкам ТВ, радыё і газэтаў, мінімальную месячную зарплату ў суме $100 даль. і мінімальную пэнсію ў суме $50 даль.
Калі гэтыя патрабаваньні ня будуць выкананы, камітэты правядуць агульна-дзяржаўны страйк. Камітэты таксама выказваюць сваю падтрымку ініцыятыве правядзеньня прэзыдэнцкіх выбараў 16-га травеня гэтага году і іх падтрымку. Як кажа Сяргей Антончык, рабочы рух зьяўляецца найбольшаю сілай, якая можа зьмяніць сытуацыю ў Беларусі.

* * *

Польскі Парлямэнт 22-га студзеня г. г. прагаласаваў 354-ма галасамі, супраць 7-мі і 49 устрыманых, "пасланьне да Беларускага народу", дакларуючы маральную падтрымку апазыцыйнаму Вярхоўнаму савету і сваю сымпатыю для ўсіх беларусаў, што змагаюцца за свабоду і вольнасьць слова. Падкрэсьліваецца, што Польшча верыць у добрасуседзкія адносіны з Беларусьсю і таксама ў незалежную Беларусь.

Беларускае (цяпер ужо расейскае) міністэрства замежных спраў выказалася ў справе гэтага пасланьня, як умешваньне ў унутраныя справы краіны...

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пpycкі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Language society criticizes national census plans

The Francisak Skaryna Belarusian Language Society (BLS) believes that the 1999 national census is likely to distort the true demographic situation in Belarus to please President Lukashenko. "The fact that the census-paper is only available in Russian runs counter to the Belarusian Constitution of 1996," said BLS Chairman Oleg Trousov. Commenting on the Nationality section of the questionnaire, Trousov stressed that Belarusian legislation provides that no one can be questioned about his or her nationality, unless in the interests of the development of educational or cultural ethnic organizations. "The president claimed in his recent statements that the share of Russians in Belarus' population is 25%, not 13.2% as the 1989 census showed," Trousov said. He expressed confidence that census officials would "quickly concoct" the required 25% regardless of the reality. The Native Language section contains "two dangerous questions" ("What language do you usually speak at home?" and "In what other languages are you fluent?"). According to Trousov, those questions are purely political ones and are aimed at showing that everybody speaks Russian at home. According to Trousov, the census may become a sort of a preamble of the referendum on annexation of Belarus.

## McDonald's to open 6th restaurant in Minsk

McDonald's is likely to open its 6th restaurant in Minsk on Nemiga Street in April this year, said Olga Troyan, manager of the McDonald's Marketing and Public Relations Department. The opening of the restaurant was originally scheduled for autumn of 1998, and later postponed to the end of the year. The construction of the restaurant is behind schedule because of inspections by various construction and architectural authorities, during which work was suspended. The restaurant is designed for 100 visitors and will have the same number of personnel. The cost of the restaurant including equipment is about $1.2 million. The McDonald's place will occupy the ground floor of a three-story building, the other two floors will be granted on lease to foreign and Belarusian companies.

## President regrets the withdrawal of missiles

The withdrawal of nuclear weapons from Belarus was a mistake, said Belarusian President Alexander Lukashenko in an interview on the Belarusian state television. "When we had Topols (mobile intercontinental ballistic missile systems), we were welcome in the West, and they used to sign agreements with us, and they nearly admitted us to the EU, even signed an interim agreement, and Clinton came here, and we were friends throughout. As soon as we withdrew nuclear weapons, they ceased to talk to us at all, as well as to the Ukrainians and the Kazakhs," said Lukashenko. According to the Belarusian leader, it was after the withdrawal of nuclear weapons from Belarus that NATO began its eastward expansion.

# Увага! Напярэдзе перапіс!

**Грамадзяне Беларусі павінны быць пільнымі і падрыхтаванымі да гэтай нібыта простай, аднак пагрозлівай для нацыянальнага адраджэння справы перапісу насельніцтва.**

Па-першае, перапісныя лісты, зацверджаныя загадам міністра статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь № 223 ад 02.10.1998, падрыхтаваны толькі на рускай мове, што з'яўляецца грубым парушэннем Канстытуцыі Беларусі і Закона аб мовах. Таму парада: патрабуйце на аснове артыкула 50 канстытуцыі 1996 года ад перапісчыкаў бланкі на беларускай мове і запаўнення іх таксама па-беларуску. Найбольшую небяспеку захоўвае «пяты пункт» перапіснога ліста. Пры савецкай уладзе тут была графа «нацыянальнасць», цяпер — «язык». Гэты раздзел складаецца з трох пытанняў. Першага пытання «родной язык» спачатку не было, потым, пад ціскам грамадскасці, яно з'явілася.

Наступныя пытанні — «На каком языке вы обычно разговариваете дома?» і «Другой язык, которым свободно владеете?» Дома многія нашыя грамадзяне размаўляюць на «трасянцы», якая, хутчэй за ўсё, атрымае назву «русский язык».

Пытанне пра другую вядомую мову нават у савецкіх анкетах ставілася больш карэктна. Не «другой язык», а «другие языки, которыми вы свободно владеете». Гэта важна ў беларускіх умовах, калі, напрыклад, мноства грамадзянаў Заходняй Беларусі добра ведаюць не толькі рускую, але і польскую мову, а на Палессі — украінскую і г.д. Але ўладам патрэбны толькі адзін адказ. Другая мова — толькі руская, калі яна ўжо не першая.

Такі перапіс павінен паказаць свету, што беларусаў у Беларусі не большасць, а меншасць, таму аб'яднанне з Расіяй неабходнае. Таму, грамадзяне, добра падумайце, калі будзеце адказваць на пытанні перапіснай анкеты.

**Алег ТРУСАЎ,**
*першы намеснік старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны*

## ДА ГРАМАДЗЯНАЎ БЕЛАРУСІ

Шаноўныя суайчыннікі!

Глыбокі крызіс азмрочыў калядныя і навагоднія святы ў Беларусі. Вярнуліся чэргі, дэфіцыт, вяртаюцца карткі. Знікаюць з продажу жыццёва важныя прадукты. Людзям не даюць зарабіць нават на харчаванне для сябе і сваёй сям'і. У дзяржаве не дзейнічае Канстытуцыя і законы, пануе карупцыя. Усё гэта — вынік злачыннай антынароднай палітыкі, якую вядзе А.Лукашэнка і яго групоўка ўжо чатыры гады. Лукашэнка і яго стаўленікі — Мясніковіч, Лінг, Малафееў, Шыпук і іншыя — купаюцца ў раскошы, будуюць новыя рэзідэнцыі ды лятаюць на спецсамалётах, а большасць народу перабіваецца на мяжы галечы.

Абавязак кіраўніцтва дзяржавы — дбаць пра свой народ, пра яго дабрабыт, пра здаровую эканоміку. Але замест гэтага Лукашэнка падпісае з Ельцыным дэкларацыю аб стварэнні ў наступным годзе нейкай "агульнай" расійска-беларускай дзяржавы, што на практыцы значыць далучэнне Беларусі да Расіі.

І Лукашэнка, і Ельцын нясуць адказнасць за поўны развал эканомікі і крызіс у сваіх краінах. Для іх абодвух гульні ў "інтэграцыю" патрэбныя, каб уцячы ад адказнасці за ўчыненае.

Калі ў Беларусі ў наступным годзе не адбудзецца дэмакратычных выбараў, цывілізаваныя краіны свету перастануць прызнаваць Лукашэнку прэзідэнтам. Але Лукашэнка баіцца свабодных выбараў. Таму ён ідзе на здачу незалежнасці нашай краіны, спадзяючыся атрымаць вярхоўную ўладу ў аб'яднанай дзяржаве. Таму здрадліва і цынічна, у святочны дзень, Лукашэнка падпісае ў Крамлі антыканстытуцыйны дакумент, на які яго ніхто не ўпаўнаважваў. Незалежнасць Беларусі, за якую пралівалі кроў пакаленні нашых продкаў, апынулася пад пагрозай.

Беларускаму народу не патрэбнае ператварэнне ў правінцыю неірадказальнай Расіі. Беларусам не патрэбна аб'яднанне з краінай, якая пастаянна вядзе войны на сваіх ускраінах. Беларусам не патрэбна ўваходзіць у дзяржаву, дзе адкрыта прапагандуецца нянавісць да іншых народаў і іншых вераў.

Мы заклікаем усіх грамадзянаў Рэспублікі Беларусь гуртавацца вакол Вярхоўнага Савета 13-га склікання, які павінен стаць гарантам нашай незалежнасці і Канстытуцыі.

Мы заклікаем усіх, каму дарагі мір і спакой на нашай Бацькаўшчыне, хто хоча бачыць Беларусь незалежнай, дэмакратычнай, заможнай краінай, да рашучага пратэсту супраць здрадніцкай палітыкі Лукашэнкі.

Жыве незалежная Беларусь!

***С.Шарэцкі**, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь; **С.Багданкевіч, А.Лябедзька** ад АГП; **А. Бухвостаў** ад Беларускай партыі Працы; **С.Шушкевіч** ад БСДГ; **М.Статкевіч, А.Кароль** ад БСДП ("НГ"); **Г.Карпенка** ад Нацыянальнага Выканаўчага Камітэта; **Л.Баршчэўскі, Ю.Хадыка** ад БНФ "Адраджэньне"*



# New presidential race begins

"Minsk News"

**By Tatiana KALINOVSKAYA**

The Belarusian political life is gradually becoming more intriguing - in the near future the 13th Supreme Council, acknowledged by the West and international organizations as the single legitimate parliament of the country, will supposedly launch a presidential election campaign.

New notions will emerge on the Belarusian political arena: Central Election Commission and candidates for the presidency. Though illegitimate from the official standpoint, they will prepare to the presidential elections, meet with voters and present their programs. Viktor Gonchar, chairman of the Central Election Commission, is doing his best to see logical results of the campaign - a nationwide voting and announcement of a new president. The campaign will be set in motion by the 13th Supreme Council, and this is how Semion Sharetsky, speaker of the Supreme Council, sees the current situation.

***Q: You made a statement about the preparations for the 1999 presidential elections. Do you think the presidential elections may become a reality this year?***

A: The Supreme Council will spare no efforts for the elections to take place. Presidential elections, elections to the Supreme Council cannot be substituted by referendums. Basically, President Alexander Lukashenko's mandate expires on July 20, 1999, and in conformity with the current legislation we are obliged to institute the elections.

***Q: Previously, opposition delegates of the Supreme Council hadn't a single strategy or tactic. Do your colleagues feel solidarity now?***

A: There were disagreements of a tactical character, but no one doubted that the constitution should be honored.

***Q: How are delegates going to make the authorities, which do not recognize the constitution, fulfill its clauses?***

A: After slating the elections, we will approve the list of possible members of the Central Election Commission to substitute the election commission hand-picked by Lukashenko. Then, step by step, we will head for our goals - to create regional and local commissions.

At present, there are more applicants (among them famous and respected Belarusians) than vacant positions in the Central Election Commission, which, according to the constitution, will spearhead and supervise the whole campaign.

***Q: Do any international institutes or foreign parliaments render you any significant assistance?***

A: During the recent parliamentary forum of the Central and Eastern European countries I, personally, came up with this crucial issue. I asked Europe to make only logical decisions, since it did not recognize the 1996 referendum results. Therefore, I believe Europe will be consistent in its approach and will admit the necessity of the 1999 elections.

***Q: Is society ready for the presidential elections, has it realized their necessity?***

A: I am absolutely positive about it. The current situation heightens Belarusians' political awareness. I recently visited Gomel where I was told a striking story - a nursing mother of several children wanted to buy three bottles of skim milk. She was allowed to take only two of them - to purchase the third bottle the woman was asked to produce the proper certificate. People in the store had different visions of the problem: some of them agreed that the woman had to produce the required document while the rest of the customers asked why there are dairy shortages.

***Q: The food crisis became the strongest impetus for the public discontent. For a rather long time you have been working in the agricultural sector. Why is Belarus encountering the current food shortages? The authorities have failed to give a logical and plausible answer so far.***

A: Each year of Lukashenko's rule, the number of live-stock has been gradually decreasing until it almost disappeared. Now there is simply no milk in Belarus and no other dairy products either.

The agricultural sector, the industry as well as private business went bankrupt. The population feels this and they believe that a new president will be able to introduce some drastic changes to the national socio-economic policy.

Those who are willing to work and be responsible for the results - entrepreneurs, collective farmers and intellectuals - will breath freely. A democratic society gives birth to ambitious and enthusiastic people.

Consequently, the West and the East will choose a correct attitude. The international community will render all possible assistance to Belarus when it will stand on the democratic rails.

Ніл ГІЛЕВІЧ



# Лозунгі прывабныя, але...

Народная Воля

## Рэпліка маладым "прагматыкам"

З цікавасцю прачытаў артыкул маладафронтаўцаў П.Севярынца і А.Янукевіча "Беларуская эканамічная ідэя" ("Народная воля" за 16 снежня 1998 г.). Радасна бачыць, што ў вялікую палітыку актыўна ўступаюць дзейсныя, мэтаімкнёныя, разумныя дзецюкі. Добрую, прывабную, аптымістычную праграму эканамічнага станаўлення і развіцця Беларусі намалявалі яны ў двух першых часцінах свайго артыкула, грунтоўна падлічылі "стартавы капітал", упэўнена запрагназавалі "беларускі эканамічны цуд", які будзе забяспечаны рацыянальным выкарыстаннем такіх рэсурсаў і магчымасцяў краіны, як геаграфічнае становішча, інтэлект і працавітасць народа, скарбы прыроды, зайздросныя абсягі зямлі, замежныя і ўнутраныя інвестыцыі, турыстычны бізнес і многае іншае. А ў трэцяй, апошняй частцы артыкула аўтары прыходзяць да высновы, што ва ўсе часы Беларускае Адраджэнне, у тым ліку і найноўшае, канца 80-х — 90-х гадоў, было рамантычным, яму "не ставала прагматызму — як палітычнага, так і эканамічнага", і менавіта ў гэтым палягае прычына яго паразы. А трэба, каб яно было прагматычным, і зробіць яго такім новая хваля Адраджэння, "звязаная з моладдзю". Што справу Беларускага Адраджэння будзе далей весці моладзь — гэта само па сабе зразумела. А хто ж яшчэ! Канешне, моладзь, — тыя, у каго — усё наперадзе, у каго і сіла, і імпэт, і не знаёмая з сумненнямі ўпэўненасць. Памажы, Божа! — як казалі ў такім разе на нашай зямлі адвеку. Хацелася б, аднак, бачыць у артыкуле хоць нейкія доказы таго, што дагэтулешняе Адраджэнне было рамантычным, што яму, дакладней, — наіўнай адраджэнцкай інтэлігенцыі, бракавала прагматызму. Ці так гэта? І пра які прагматызм гаворка?

Як адраджэнец з амаль 40-гадовым стажам, мушу запытацца: няўжо дзейнасць стваральнікаў БНР у 1918 годзе была палітычнай рамантыкай і не больш? А стварэнне незалежнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь, а праца дзеля яе прызнання ў цэлым свеце, а прыняцце Законаў аб мове, аб адукацыі, аб культуры, якія павярнулі краіну на шлях беларусізацыі, а ўзвядзенне нацыянальнай сімволікі ў ранг дзяржаўнай, а прыняцце Канстытуцыі 1994-га, якая зацвердзіла беларускую мову адзінай дзяржаўнай, — няўжо, скажыце, усё гэта і многае іншае было "рамантыкай", а не палітычным прагматызмам? Што ж тады вы разумееце пад апошнім? І якую палітычную праграму маеце намер прагматычна ажыццяўляць вы?..

Дзяржаўна-палітычнае будаўніцтва новай Беларусі пацярпела паразу не з-за рамантызму, а з-за недаацэнкі сіл супраціўлення працэсу Адраджэння — як унутры краіны, так і на ўсход ад яе, з-за празмернай даверлівасці да мацёрых ваўкоў імпершавінізму, з-за палітычнай нявопытнасці і нерашучасці ў дзеяннях, з-за расплывістасці і няпэўнасці рэфармоўча-стваральных праграм, з-за раз'яднанасці дэмакратычных сіл краіны, іх негатоўнасці да цеснага яднання ў абароне здабытых заваёў адзіным фронтам. Дык, мабыць, з гэтага і трэба рабіць высновы для практычнай (прагматычнай) дзейнасці на сучасным этапе Адраджэння.

Што ж датычыць прагматызму эканамічнага, ці, як пішуць аўтары артыкула, набыцця Беларускай Нацыянальнай Ідэяй "матэрыяльнага аспекту", то... заяўкі і лозунгі абвешчаны вельмі прывабныя і некаторыя заўвагі выказаны справядліва. Ну сапраўды, курс на гарантаваныя 300 долараў зарплаты ад дзяржавы не вытрымлівае ніякай крытыкі — у параўнанні з лозунгам "Мы дадзім вам магчымасць законна зарабляць 1000 долараў у месяц!" Згодзен поўнасцю: менавіта так трэба глядзець на сутнасць рэфармавання эканамічных асноў жыцця ў незалежнай і беларускай Беларусі. Наўмысна падкрэсліваю яшчэ раз: у незалежнай і беларускай Беларусі. І тут хачу сказаць галоўнае, дзеля чаго ўзяў гэтае слова.

Дарагія маладыя людзі! Празмерна захапіўшыся "матэрыяльным аспектам" беларускай ідэі, глядзіце — не прамахніцеся трагічна! Вы пішаце: "Трэба даць народу магчымасць займацца сваім шчасцем асабіста". Выдатна! Але — дзе "трэба даць"? У якой краіне? У незалежнай беларускай Беларусі — ці ў паўночна-заходнім краі Расіі? Ваш прывабны лозунг "дайце зарабіць 1000 долараў у месяц!" далакопы незалежнай Беларускай Дзяржавы паб'юць яшчэ больш спакусным лозунгам: "У складзе Расійскай Федэрацыі мы дадзім вам зарабіць 3000 долараў у месяц!.." І дадуць! Усё дадуць — напачатку. Толькі далучыцеся да Расіі, толькі адмоўцеся ад свайго дзяржаўнага суверэнітэту, толькі выкіньце з душы і сэрца сваю беларускую ідэю, сваю нацыянальную самасвядомасць! Выкіньце з галавы думку, што вы самастойны славянскі народ — са сваім прыродным менталітэтам, са сваёй уласнай мовай і сваёй уласнай самабытнай культурай! І з радасцю прывітаюць яны ваш — "напісаны вялікімі літарамі" — лозунг: **"Беларусы! Узбагачайцеся!"**. Праўда, гучаць ён ужо будзе трохі іначай. Спачатку: **"Грамадзяне Беларусі! Узбагачайцеся!**, а затым — проста: **"Грамадзяне! Узбагачайцеся!"** Ужо — без "беларусаў". "Беларусы" адпадуць і зікнуць. Беларусаў не стане. Так што — добры, бясспрэчна, лозунг, толькі вось Беларусь будзе ні пры чым, бо пакуль наступіць пара яго агаласіць — Беларускай незалежнай дзяржавы тым часам не стане.

Аднойчы, гады чатыры назад, у асяроддзі самых-рассамых дэмакратаў былі загучалі галасы, якія выклікалі ў маёй душы нястрымны пратэст і абурэнне. "Государственный суверенитет Беларуси — это прекрасно! Но зачем насаждать белорусский язык в республике? Почему вообще не перейти полностью на русский? Вон суверенная Австрия пользуется немецким — и хорошо! Вон как они богато живут, эти австрийцы! Сколько долларов в месяц зарабатывают!.." Адным словам — у прагматычных клопатах пра дабрабыт людзей — прапаноўваўся нам, беларусам, гэтакі аўстрыйскі варыянт існавання. Не сумняваюся, што вялікую частку насельніцтва Беларусі ён і задаволіў бы. Рэферэндум аб мовах пацвярджае сказанае.

Для чаго я прыгадаў гэта? А для таго, каб не толькі "старыя рамантыкі", але і "маладыя прагматыкі" помнілі: толькі тады народ забяспечыць сабе жаданы матэрыяльны дабрабыт, калі будзе пачувацца поўным гаспадаром у сваім уласным доме. Значыць, найпершы і найгалоўны **сёння** наш прагматычны клопат — не даць ворагам беларушчыны зліквідаваць наш Беларускі Дом. Гэта павінна быць у аснове і стратэгіі, і тактыкі змагання за будучыню Беларусі. Без гэтага "эканамічны прагматызм" можа аказацца звычайнай здрадай высокім і святым ідэалам Бацькаўшчыны, звычайным абывацельскім прымірэннем са становішчам матэрыяльна забяспечаных халуёў і манкуртаў. У гісторыі такое ўжо было неаднойчы.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

ПРЭЗЫДЫЮМ

Сьнежань 1998 г.

Высока Паважаныя і Дарагія Суродзічы,

Як Вам напэўна ведама, у гэтым 1998-м годзе, у сувязі з зборам ахвяраў на «Дар Сакавіка», былі высланыя лісты ўсім ведамым нам суродзічам ня толькі на беларускай мове, але таксама І на ангельскай. Гэта рабілася з надзеяй, што лісты гэтыя прачытае і нашае англамоўнае маладое пакаленьне. Нажаль адрасоў моладзі мы мелі вельмі мала, І таму высылалі і адны і другія лісты на адрасы бацькоў.

У пачатку наступнага году, хацелася-б зьвярнуцца беспасярэдня да ўсіх нашых суродзічаў, старэйшых І маладых. Нашая моладзь маецца нармальна шмат лепш за нас, старэйшых. Было-б сапраўды пажаданым каб і яна ня была абыякавай да падзеяў у Беларусі ды адчувала сябе адказной за будучыню нашай супольнай Бацькаўшчыны. Мы разумеем, што нашыя маладыя лекары, адвакаты ды інжынеры часта за моцна занятыя, асабліва калі маюць малышоў, каб далучыцца да змаганьня за ідэалы 25-га Сакавіка. Але кожны мусеў-бы разумець, як моцна патрэбная нашай справе ягоная падтрымка. Пакуль што, беларускае жыцьцё фінансуецца ахвярнымі адзінкамі. Калі-б ведалі гэта нашыя дзеці, хочацца думаць што дапамаглі-б у меру магчымасьці. Але каб іх паінфармаваць, нам патрэбныя адрасы. Наперад Вам дзякуем за супрацоўніцтва.

Жыве Беларуусь!

Івонка Сурвілла
Старшыня Рады БНР

## Папярэднія вынікі перапісу насельніцтва Беларусі будуць падведзены ў сакавіку 1999 года

Папярэднія вынікі перапісу насельніцтва Беларусі, які пройдзе з 16 па 23 лютага, будуць падведзены ў сакавіку, канчатковыя — у кастрычніку 1999 года. Пра гэта паведаміла начальнік Мінскага гарадскога ўпраўлення статыстыкі Валянціна Ліпневіч на прэс-канферэнцыі ў Мінску 12 студзеня.

Запаўненне перапісных лістоў пачнецца ў 8 гадзін раніцы 16 лютага спецыяльна падрыхтаванымі лічыльнікамі. Запіс звестак у перапісныя лісты будзе рабіцца са слоў апытваемых без прад'яўлення імі якіх-небудзь дакументаў.

Па словах В.Ліпневіч, атрыманая ад грамадзян інфармацыя строга канфідэнцыяльная і пры абагульненні абязлічваецца. Да тых грамадзян, якія ўсё ж баяцца абвяшчэння звестак і маюць намер ухіліцца ад перапісу, ніякіх штрафных санкцый прымяняцца не будзе.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Электрычным токам забіла 264 каровы

Адразу на 264 каровы зменшыўся дойны статак у калгасе "Любушанскі" Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. Менавіта столькі жывёлін тут былі паражоны электрычным токам.

Начальнік дзяржаўнай інспекцыі па ахове працы, транспартнай і пажарнай бяспекі Мінсельгасхарча Лявонцій Коктыш паведаміў карэспандэнту БелТА, што гэта першы такі выпадак з пачатку новага года. Устанаўленнем прычын таго, што здарылася, цяпер займаюцца кампетэнтныя ведамствы. Зрэшты, паводле слоў Лявонція Коктыша, напярэдадні зімова-стойлавага перыяду камісія па праверцы электрычнасці не выявіла ў гэтай гаспадарцы якіх-небудзь няспраўнасцей.

**Алег ШВЕДАЎ.**

## Агульныя запасы Брынеўскага буравугальнага радовішча ацэньваюцца / прыкладна ў 35 мільёнаў тон

У гэтым годзе пачнецца разлік тэхніка-эканамічнага абгрунтавання магчымасцяў прамысловага асваення Брынеўскага буравугальнага радовішча ў Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобласці.

Як паведаміў БелаПАН галоўны геолаг ВА "Белгеалогія" Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі Пётр Хоміч, агульныя запасы бурых вугаляў гэтага радовішча ацэньваюцца прыкладна ў 35 мільёнаў тон. Ён прыдатны для вытворчасці брыкетаў, якія могуць выкарыстоўвацца ў якасці энергетычнага і бытавога паліва.

**Марат ГАРАВЫ.**

## рэдакцыя газеты "Наша слова"!

Хачу падзяліцца з чытачамі нашай газеты сваімі думкамі аб беларускай мове. Адразу скажу, я шараговы чытач "Нашага слова", беларускую мову ведаю недасканала. Але мяне турбуе ўсё тое, што адбываецца з нашай цудоўнай, мілагучнай мовай, адзінай такой у свеце. Вядома, што мова па-за палітыкай. Але толькі не на Беларусі. Чаму адну беларускую мову ( тарашкевіцу) судзяць, забараняюць і нічога не робяць з "агульнапрынятай" — наркомаўкай? Гэта што праблемы мовы ці праблемы палітыкі!? Наша слова — якое яно, наша беларускае слова!? Тое, што Сталін нам пакінуў у спадчыну, ці іншае?

Наша слова — гэта "тарашкевіца". Мае апаненты мне могуць запярэчыць, што людзі ўжо прывыклі да "наркомаўкі", а "тарашкевіца" для іх чужая, незразумелая. Падман. Наша сапраўдная, беларуская мова мяккая, мілагучная. І кожны беларус сэрцам адчувае, што "тарашкевіца" і ёсць сапраўдная беларуская мова.

Усе гэтыя гады мы жывём пад расейскамоўнай акупацыяй. Рэформа 1933 года гвалтам навязала "наркомаўку" беларускаму народу. ГУЛАГ Беларусі пралягае не толькі праз "Валадарку" і Курапаты, ён прайшоў і праз нашую мову. Беларускую мову згвалцілі, а мы па сённяшні дзень лічым "наркомаўку" сваёй. Нельга лічыць законным дэкрэт акупантаў. Нельга яму падпарадкоўвацца. Усё, што рабілася ў часы панавання СССР супраць нашай Радзімы, тым больш сусветнавядомым дыктатарам Сталіным, з'яўляецца незаконным.

"Наркомаўка" — гэта сурагат беларускай мовы. Яна знішчае, губіць нашаю мілагучную мову. Не дзіва, што многія лічаць яе (наркомаўку) грубай "дзеравенскай" мовай. Гэтага і дасягнулі русіфікатары — акупанты. Наблізіць гучанне нашае мовы да расейскай. А потым і зусім зліць, але на карысць расейскай. Гэта быў адзін з першых крокаў да знішчэння беларускай мовы. Трэба было так яе зняважыць, каб народ, носьбіт мовы абразліва адносіўся да яе. І сёння мы маем, тое, што народ размаўляе на мове акупанта. Русіфікатары дамагліся свайго. Другая справа "тарашкевіца". Яна ну ніяк не можа "зліцца" з расейскай, яна беларуская.

Таму акупанты і баяцца, "тарашкевіцы", таму і судзяць яе, і забараняюць. "Тарашкевіца" — гэта адраджэнне нашай Беларусі.

Газета "Наша слова" заклікае шанаваць і захоўваць беларускую мову. Пытанне толькі — якую? Калі мы хочам захаваць і даць росквіт нашай мове, трэба каб і "Наша слова" друкавалася на мове "Тарашкевіча", на сапраўднай беларускай мове, якая не зведала сталінскага бота.

*З павагай да вас*
*Ангеліна Масюта*
*г.Менск*

"Наша слова"

АПЫТАНЬНЕ...

**Ці на вашу думку прэзыдэнт Беларусі А. Лукашэнка —**

**1. запачаткаваў зьнішчэньне беларускае гістарычнае сымболікі — "Пагоні" і бел-чырвона-белага сьцягу?**

**2. зьяўляецца ворагам усяго беларускага (мовы, культуры...)?**

**3. Хоча цалкам зьнішчыць незалежнасьць і аддаць Беларусь як "заходні край" Расеі?**

**Чакаем на адказы нашых чытачоў...**

# Быў месяц май 42-га

Пасля таго як у красавіку 42-га года зямлю калгасную, жывёлу, сельгасінвентар сяляне нашай вёскі Боркі, як і паўсюль на Случчыне, падзялілі, у хлапчукоў-падлеткаў паявіўся гаспадарчы клопат — вадзіць на начлег коней. Лепшых гнядых немцы яшчэ зімой забралі, пакінулі з тузін старых, дабітых калгасам дахадзягаў. Іх хапіла па адной на дзве гаспадаркі. Але што дзіўна: не прайшло і месяца, як тыя дахадзягі з вострымі дугамі рэбраў на баках сталі нібы лялькі. Што значыць конь займеў "свайго" гаспадара.

У маі месяцы на лугах і ў хмызняках ля лесу паявілася траўка — коням начны корм, бо днём яны з ранку да вечара былі ў полі. Мы, хлапчукі, распальвалі касцёрчык, смажылі на ражончыках сала, баілі байкі, а потым апаўночы, прыгрэўшыся ля тлеючых вугольчыкаў кастрышча і захінуўшыся ў буркі ці халацікі, спалі да самага золаку. А як толькі сонца залаціла вершаліны дрэў у блізкім бярэзніку, мы растрыножвалі сваіх сівак і ехалі дамоў, у вёску.

У той сонечны нядзельны майскі дзень маці сказала мне, каб схадзіў у Слуцк (васемнаццаць кіламетраў ад нашай вёскі), купіў солі, сахарыну, запалак. Ад такой матчынай задумкі радасці маёй не было канца: з таго дня, як у канцы чэрвеня 41-га года праводзіў да ваенкамата бацьку — пачалася ўжо вайна — я не быў у горадзе. Іду да свайго сябрука Толіка Валатковіча, і мы басанож узялі кірунак на Слуцк. Мінавалі тры вёскі, і вось ужо мы на асфальтаванай шашы, што вядзе з Бабруйска на Брэст.

Звінелі ў небе жаўрукі, аб чымсьці плакалі кнігаўкі над балотцамі, зямля дыхала цяплом і спрадвечным, толькі хлебаробу знаёмым, водарам — быццам і не было вайны, варожай акупацыі, трывогі за заўтрашні дзень. У дзяцінстве пачуцці больш падуладныя здароваму, Богам зададзенаму аптымізму, цікаўнасці да жыцця.

Абапал шашы, як толькі мы прайшлі з кіламетр у бок горада, сталі трапляцца абгарэлыя рэшткі кінутых ці разбомбленых немцамі нашых паўтаратонак, гармат. Яшчэ добра праглядваліся варонкі ад бомбаў і снарадаў. А насустрач па шашы ўжо насоўваецца даўжэзная вайсковая аўтакалона немцаў. Яна кіруецца на ўсход — да фронту. Наперадзе — легкавая з адкідным верхам машына, на ёй тырчаць ствалы спаранага буйнакалібернага зенітнага кулямёта. Услед ідзе другая такая машына, на капоце яе прымацавана чырвонае палотнішча з белым кругам пасярэдзіне, у цэнтры якога чарнее павуком свастыка. Мы тады гадалі, што б значыла тое палотнішча. Ужо пасля вайны даведаўся: ім немцы давалі знак сваім самалётам, што калона "свая". Мы збочваем на абочыну шашы, бо машыны ідуць хутка, час ад часу іх абганяюць матацыклы з каляскамі, на кожным — па тры салдаты, з кулямётам наперадзе. Машыны-грузавікі крытыя брызентам, праз адкрыты зад кузаваў бачны салдаты — у касках, з вінтоўкамі між кален. Некаторыя іграюць на губных гармоніках, яшчэ не ўяўляючы, што іх чакае на тым Усходнім фронце.

Вось і Слуцк. Галоўная вуліца, да вайны яна называлася Пралетарскай, ад усходняй ускраіны да цэнтра — суцэльнае поле абгарэлых комінаў, галавешак. Мы спыталі ў адной жанчыны, хто спаліў гэтыя дамы. "Нашы энкаўсаўцы, як адступалі, падпальвалі, каб за дымам схавацца ад немцаў". Такі адказ нас здзівіў: выхаваныя да вайны савецкай школай-сямігодкай, мы засумняваліся ў праўдзівасці слоў той жанчыны. Толькі пасля вайны і хрушчоўскай "адлігі" той факт пацвердзілі многія жыхары-пагарэльцы.

У цэнтры горада — двухпавярховы будынак Дома Саветаў. Там пры немцах была гарадская ўправа. Над уваходам у будынак вісіць вялізны партрэт Гітлера, над ім — чырвоны сцяг з белым кругам і чорнай свастыкай. Вартавы з карабінам на рамні праходжваецца паблізу. На рагу вуліцы жанчына прадае газеты. Іх я не бачыў амаль год — з пачатку вайны. Купляю за рубель "Беларускую газэту". Справа ўгары — выява "Пагоні". На першай старонцы — зводка з Усходняга фронту пад рубрыкай "З галоўнай кватэры фюрэра". Зацікавіла паведамленне аб баях на Паўднёвым участку фронта: "Наступ Саветаў пад Харкавам. Бальшавікі буйнымі сіламі танкаў і пяхоты перайшлі 13 мая ў наступ у раёне Лазавая і Барвенкава. Але ўсе іх атакі адбіты з вялікімі стратамі для ворага. У паветраных баях збіта 55 самалётаў Саветаў, нямецкая авіяцыя не далічылася шасці самалётаў". Маё хлапечае сэрца ўзрадавалася ўжо ад таго, што ў нашых ёсць танкі і самалёты і яны наступаюць, а таму, што немцы страцілі ў дзесяць разоў менш збітых самалётаў, чым Саветы, я тады не верыў. Пазней, з мемуараў нашых і нямецкіх ваеначальнікаў, стала вядома, што ў першыя паўтара гады вайны менавіта такія суадносіны страт былі, як кажуць, у норме — не на нашу карысць.

Ужо праз два тыдні пасля наведвання Слуцка тая ж "Беларуская газэта", якую прывёз наш сусед, паведаміла, што акружаныя пад Харкавам дзве арміі Саветаў разгромлены, толькі палоннымі немцы ўзялі 157 тысяч чалавек, у якасці трафеяў — звыш 600 танкаў, 3600 гармат. На жаль, і тут нямецкая прапаганда ніколькі не перабольшыла лічбаў нашых страт у той бітве — іх пацвердзілі пасля вайны савецкія ваеначальнікі і гісторыкі.

...Мой сябра прапануе схадзіць на рынак. Туды ад цэнтра горада з кіламетр. Па вуліцы два нашы ваеннапалонныя ў брудных шынялях, бледнатварыя, коцяць тачку, загружаную бітай цэглай. Без канваіра. Лагер ваеннапалонных, дзе за зіму 42-га вымерла ад голаду і тыфу звыш 10.000 нашых салдат і афіцэраў, знаходзіўся ў вайсковым гарадку ў кіламетры ад рынку. Нечаканасцю для нас было ўбачыць жанчыну з жоўтай шасціраговай зоркай на грудзях і плячах, якая ішла па маставой, — вязня яўрэйскага гета...

На рынку — шмат людзей, панаехала нямала падвод з навакольных вёсак. За савецкія рублі, якія заставаліся ў абароце, купляю ў бабулі шклянку солі, два карабкі запалак, а ў нямецкага салдата з тылавікоў, што стаяў побач з тымі бабулямі з адкінутай на раменьчыках дошчачкай-палічкай, — пачак сахарыну і кавалак пясочнага мыла. Таксама за савецкія рублі, што мяне вельмі здзівіла, таму як разлік вёўся і за акупацыйныя маркі. Звяртаю ўвагу на дзядзькоў, што на разасланых на маставой пасцілках выставілі бутэлькі з самагонам, расклалі на ручніках закусь — хлеб, сала, парэзаныя агуркі, цыбулю. Падыходзяць два немцы, пасьмейваюцца з такога сервісу, паказваюць пальцамі мужчыну, каб ён спярша сам паспрабаваў самагонкі — не давяраюць! Той налівае паўшклянкі, залпам выпівае і выцірае вусны рукавом куфайкі. Тады і немцы асушваюць па паўшклянцы, закусваюць салам, разлічваюцца маркамі.

Шмат на рынку розных багамолак, жабракоў. Яны пяюць евангельскія псалмы пра канец свету, пра тое, што "брат пойдзе на брата і вялікая кроў пральецца". Людзі слухаюць, думаюць, ківаюць галовамі ў знак згоды, бо ўжо такое дзеецца навакол.

Пакідаем рынак і ідзём міма будынка, дзе да вайны была дзіцячая паліклініка, а пры немцах размяшчаўся паліцэйскі ўчастак. У скверыку ад вуліцы штук дваццаць ці, можа, болей бярозавых крыжоў з навешанымі паверх іх шэрымі каскамі. На кожным крыжы — дошчачка з ініцыяламі загінуўшага салдата. Дата смерці ва ўсіх адна — 26 чэрвеня 1941 года. Той магільнік нам абодвум прынёс радасць на душу. Значыць, нехта ж у той вогненны чэрвеньскі дзень стаяў насмерць, не пускаючы ворага далей на ўсход.

А Толік ужо цягне мяне ў кіно. Кінатэатр "Чырвоная зорка" (так ён называўся да вайны, і мы там разы з два былі) знаходзіўся ў будынку харальнай сінагогі, закрытай бальшавікамі, як і храмы ўсіх канфесій, яшчэ ў 20—30-я гады. Даволі прасторнае фае са сцэнай. На ёй перад пачаткам сеанса выступалі нейкія дзяўчаты, спявалі беларускія песні і танцавалі. А мы разглядвалі фотавыставу са здымкамі збітых гітлераўцамі англійскіх самалётаў. Празвінеў званок, і мы зайшлі ў залу. Дарослых было чалавек з дзесяць, яшчэ мо з трыццаць нямецкіх салдат, а то ўсё дзятва. Гасне святло, і на экране дэманструецца "Вафэн-шоу" — нямецкая дакументальная кінахроніка. У той час на Керчанскім паўвостраве немцы дабівалі дзве арміі бальшавікоў, і хранікёры паспелі зняць кадры з фронту, даслаць іх у маленькі правінцыйны беларускі горад. Вось дык нямецкая аператыўнасць! Аператар паказвае цэлыя табуны спаленых савецкіх танкаў і аўтамашын, трупы салдатаў уздоўж марскога пабярэжжа, матроскія бесказыркі на грэбнях хваляў. І зноў трупы, трупы, машыны, гарматы, танкі. І потым — калона нашых ваеннапалонных пад канвоем нямецкіх салдатаў. На сэрцы маім асядаюць камяком горыч і боль.

Урэзалася ў памяць з той хронікі сцэна, зазнятая аператарам на поўначы Афрыкі, у Егіпце, дзе тады наступаў танкавы корпус гітлераўскага генерала Роммеля. Аэрадром у пустыні. У небе — пяцёрка беленькіх самалётаў, напэўна, англійскіх. Да "месершміта-109" накіроўваецца белагрывы лётчык у адных шортах, без майкі і парашута. Лезе ў кабіну. Самалёт узмывае ў паветра. І вось ужо аператар здымае сцэну, як неба пракрэсліваюць сілуэты двух ахопленых агнём самалётаў, на месцы падзення іх уздымаюцца фантаны дыму. А той нямецкі ас ужо вылазіць задаволены з кабіны свайго "месера", сябры паціскаюць яму руку, а на фюзеляжы машыны выводзяць яшчэ адзін крыжык — адзнаку чарговых збітых самалётаў.

Пасля ўсяго ўбачанага пра вайну нейкая пуставатая, як нам здавалася тады, нямецкая кінакамедыя "Сэрца радаснае, сэрца сумнае" была нецікавай, хоць кадры суправаджаліся субцітрамі на беларускай мове. Не дачакаўшыся канца сеансу, цішком выйшлі з залы і пайшлі дамоў — той жа дарогай. Нас абганялі калоны нямецкіх франтавых машын і матацыклаў. Калі нарэшце збочылі з шашы на прасялковую дарогу, зноў адчулі цану цішыні, спеву птушак, вясковых пейзажаў. Вечарам на начлезе мы расказалі сябрукам-аднавяскоўцам аб убачаным у горадзе, а двум дзядулям, што былі ў кампаніі з намі, перадалі на цыгаркі газету.



**Міхась ТЫЧЫНА.**

г.Слуцк. *Народная Воля*

# Рукі прэч ад вольнай Беларусі!

25 снежня 1998 года ў Маскве прэзідэнты Беларусі і Расіі без папярэдняга агульнанароднага абмеркавання падпісалі дэкларацыю аб аб'яднанні Беларусі і Расіі ў адзіную саюзную дзяржаву.

Выканкам БСДГ лічыць гэтую акцыю незаконнай, бо яна цалкам пярэчыць Канстытуцыі Беларусі. Мы заклікаем сусветную супольнасць звярнуць увагу на імперскія амбіцыі Расіі, якая ў парушэнне Хельсінкскіх пагадненняў хоча змяніць міжнародныя граніцы ў цэнтры Еўропы і з дапамогай аўтарытарнага рэжыму Лукашэнкі спрабуе анексіраваць Беларусь.

Сацыял-дэмакраты расцэньваюць гэты акт як няздольнасць расійскіх уладных структур навесці парадак у сваёй краіне і як спробу выкарыстаць Беларусь для апраўдання сваіх фінансавых і палітычных правалаў і бязладдзя.

Акупацыя Беларусі расійскім рэжымам выкліча народную вайну беларускага народа і ператворыць суседні славянскі народ у захопніка і агрэсара.

Мы заклікаем грамадзян Беларусі рашуча выступіць у абарону сваёй Незалежнасці ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і міжнародным правам.

**Выканкам БСДГ.**



## "Жураўлі на Палессе ляцяць"




*Верш Алеся Ставера.*
*Музыка Ігара Лучанка.*

*Каб любіць Беларусь нашу мілую,*
*Трэба ў розных краях пабываць.*
*Разумею цяпер, чаму з выраю*
*Жураўлі на Палессе ляцяць.*

*Што ім тыя пагоды паўднёвыя,*
*Што ім пышны платанавы рай,*
*Калі клічуць іх далі сасновыя*
*І азёрны, рабінавы край.*

*Сакавітыя пожні мурожныя*
*Не заменіш нічым і нідзе,*
*І зямлю, дзе сцяжыначка кожная*
*У прыветлівы двор прывядзе.*

*Каб любіць Беларусь нашу мілую,*
*Трэба ў розных краях пабываць.*
*Зразумееш тады, чаму з выраю*
*Жураўлі на Палессе ляцяць.*

# Чалавек жыў, чалавек памёр...

НАША ГРАМАДСТВА зараз моцна хворае з пункту погляду сацыялогіі і дэмаграфіі. Пад "мудрым" кіраўніцтвам сённяшніх улад Беларусь пакрысе вымірае. Але і памёршы, чалавек не можа часам знайсці вечнага спачыну, бо кожны дзень нейкі вандал можа пашкодзіць яго магілу, скрасці вянкі і кветкі, разламаць надмагільны помнік. У апошнія часы на Беларусі назіраюцца масавыя акты вандалізму, за ноч разбураюцца дзесяткі надмагілляў у розных беларускіх гарадах, у тым ліку і ў сталіцы. Але ўладам да гэтага мала справы. Наіўныя людзі! Можна падумаць, што яны збіраюцца жыць вечна, і іх не турбуе, як нашчадкі абыдуцца з іх ўласнымі магіламі.

У свой час хрысціяне на Беларусі заўжды думалі аб смерці і своечасова рыхтаваліся да яе. Заможныя людзі загадзя клапаціліся пра месца на могілках для сябе і ўсёй сям'і, некаторыя нават наперад рабілі труны па сваім росце і трымалі іх на гарышчах. Бязбожныя бальшавікі знішчылі павагу не толькі да жывых, але і да памерлых.

Аднак звернемся да нашай гісторыі...

Тысячагадовая гісторыя Беларусі мае паслядоўную эвалюцыю пахавальных традыцый, на фарміраванне якіх уплывалі канфесійныя, нацыянальныя і палітычныя фактары. У канцы X стагоддзя нашы продкі становяцца хрысціянамі паводле візантыйскай (усходняй, потым праваслаўнай) традыцыі. Усходнеславянская традыцыя крэмацыі нябожчыкаў адразу змяняецца на трупапалажэнне. Аднак традыцыя хаваць нябожчыкаў у курганах захоўваецца да канца XII—пачатку XIII стагоддзя. Асобныя плямёны, асабліва дрыгавічы, ужываюць абрад пахавання сваіх нябожчыкаў у драўляных зрубах, якія ў XIII стагоддзі змяніліся на драўляную труну з тоўстых дошак, змацаваных каванымі цвікамі. Прадстаўнікоў княжацкіх дынастый і святароў вышэйшага стану ў гэтыя часы хаваюць ужо не ў курганах, а ў каменных саркафагах, якія часта размяшчаюцца альбо ў сутарэннях храмаў, альбо побач з імі. Звычай хаваць у храмах ці побач з імі найбольш вядомых людзей свайго часу захаваўся як у праваслаўных, так і каталікоў да 1917 года.

Адначасова з хрысціянскімі пахавальнымі традыцыямі на тэрыторыі Беларусі ў X—XII стагоддзях, а ў некаторых частках Заходняй Беларусі аж да XVII стагоддзя існавалі і язычніцкія (паганскія) пахавальныя звычаі. Гэта ўсходнелітоўскія курганы, дзе нябожчык часта хаваўся разам са сваім канём, і каменныя магілы яцвягаў.

У XIII—XV стагоддзях паступова знікаюць паганскія пахавальныя традыцыі, і, акрамя праваслаўя, на Беларусі пашыраецца каталіцызм. Курганныя і бескурганныя някропалі цалкам змяняюцца на невялікія гарадскія і вясковыя могілкі, якія звычайна размешчаны на пагорках у межах ці ў ваколіцах населеных пунктаў. Існуюць і асобныя могілкі пры манастырах і кляштарах.

У XVI—XVIII стагоддзях, акрамя хрысціянскіх (праваслаўных, каталіцкіх, а потым пратэстанцкіх і уніяцкіх) могілак, з'яўляюцца асобныя татарскія і яўрэйскія. Ландшафт гістарычных могілак Беларусі быў цесна звязаны з прыродным наваколлем, шчыльнымі зялёнымі пасадкамі каля магіл, уздоўж прысад і па перыметры прамавугольных агароджаных магілкавых участкаў, неад'емнымі элементамі якіх сталі драўляныя ці каменныя капліцы альбо царквы ці касцёлы. Планіроўчае рашэнне было рэгулярным. Магілы групаваліся па сваяцкай прыналежнасці, часам рабіліся і сямейныя склепы. У якасці надмагілляў ставіліся драўляныя крыжы, альбо камяні ці калоды з выявамі крыжа.

На яўрэйскіх і татарскіх могілках з'явіліся надмагільныя пліты з надпісамі на ідыш альбо арабскімі літарамі.

Найбольш багатыя беларускія магнаты і прадстаўнікі шляхты сваіх нябожчыкаў хавалі ў храмавых скляпеннях, а надмагіллі ўяўлялі сабою розныя скульптуры з мармуру і вапняку.

Так, сямейнай спачывальніцай роду Радзівілаў стаў Нясвіжскі фарны касцёл, а Сапегаў — касцёл францысканскага кляштара ў Гальшанах. Уніяцкія архіепіскапы хаваліся ў сутарэннях Полацкай Сафіі.

Да тых часоў адносяцца і брацкія магілы, звязаныя са шматлікімі эпідэміямі і вялікімі войнамі. Першыя вядомыя на Беларусі могілкі звязваюцца з Паўночнай вайной пачатку XVIII стагоддзя.

Хуткае развіццё гарадоў прывяло да трансфармацыі ландшафту месцаў пахаванняў. У XIX—пачатку XX стагоддзя могілкі павялічваліся, часам значна, іх маштаб перастаў адпавядаць звычайнаму, аднак рэгулярны характар планіроўкі істотна не змяніўся. Плошча, якая выдзяляецца на адзін магільны ўчастак, значна паменшылася разам з колькасцю дрэў. Стандартызацыя надмагільных помнікаў спрыяла падобнаму адзін да аднаго выгляду могілак.

Акрамя крыжоў, на магілах з'яўляюцца скульптуры і жалезныя (каваныя ці чыгунныя) агароджы. Буйныя памешчыкі, іншыя землеўладальнікі будуюць каля сваіх палацаў сямейныя капліцы-спачывальніцы. У якасці прыкладаў можна прывесці спачывальніцу князёў Паскевічаў у Гомелі і царкву-спачывальніцу князёў Святаполк-Мірскіх у Міры.

Сярод мемарыяльных помнікаў гэтага перыяду варта адзначыць падарожныя крыжы і капліцы, якія будаваліся ў вялікай колькасці, але не былі прывязаны да канкрэтных месцаў пахаванняў.

Асобнымі з'явамі ў гісторыі Беларусі праходзяць ваенныя пахаванні і мемарыяльныя знакі на іх часоў руска-французскай вайны 1812 года, магілы паўстанцаў 1830—1831 і 1863—1864 гадоў, шматлікія пахаванні часоў першай сусветнай вайны на тэрыторыі Заходняй Беларусі, а таксама брацкія магілы і могілкі, звязаныя з эпідэміямі халеры.

Вялізныя хвалі паланізацыі і сустрэчнай русіфікацыі пракочваліся адна за другой па беларускай тэрыторыі. Пасля ліквідацыі уніяцтва ў 1839 годзе праваслаўныя могілкі сталі называцца "рускімі", а каталіцкія — "польскімі". Беларуская мова знікла з надмагільных надпісаў канчаткова. У той час яўрэйскія могілкі маюць надпісы на ідыш і іўрыце, а татарскія — па-беларуску ці руску, але арабскімі літарамі. У вялікіх гарадах з'яўляюцца асобныя лютэранскія могілкі, дзе пахаваны выхадцы з Германіі. У невялікіх павятовых гарадах існавалі адны агульныя могілкі, якія мелі асобныя канфесійныя сектары. Так, напрыклад, на Мсціслаўскіх могілках, якія існуюць з XVIIIст., былі праваслаўныя, каталіцкія і яўрэйскія часткі, аддзеленыя адна ад другой канавай і невялікім насыпам.

Падчас першай сусветнай вайны нямецка-рускі фронт праходзіў праз тэрыторыю Беларусі з 1915 па 1918 год. Ваенныя падзеі пакінулі пасля сябе вялізныя нямецкія і руская салдацкія могілкі, якія зараз альбо знішчаны, альбо прыйшлі ў заняпад.

Пакінула свой след на Беларусі і савецка-польская вайна 1919—1920 гг. Гэта магілы польскіх жаўнераў і савецкіх чырвонаармейцаў, а таксама шматлікага цывільнага насельніцтва, што загінула ад рук мясцовых бандытаў і вайсковых фарміраванняў абедзвюх краін.

Другая сусветная вайна закранула тэрыторыю Заходняй Беларусі ў верасні 1939 года. Мы не ведаем, дзе пахаваны мужныя абаронцы Брэсцкай крэпасці, якія некалькі дзён мужна стрымлівалі танкавыя войскі генерала Гудэрыяна. Да нямецкіх і польскіх пахаванняў пасля 17 верасня 1939 года дадаліся і магілы чырвонаармейцаў, якія загінулі падчас выканання сакрэтных дамоваў паводле ганебнага пакта Молатава—Рыбентропа.

З 1941 па 1944 год Беларусь апынулася ў агні Вялікай Айчыннай вайны, калі на нашай тэрыторыі загінула і памерла ад ран некалькі мільёнаў чалавек розных нацыянальнасцей і канфесій.

У часы грамадзянскай вайны бальшавікі знішчылі шмат мірнага насельніцтва ў выніку класавых і канфесійных чыстак. Былі расстраляны сотні святароў і манахаў, прадстаўнікоў дваранства, буржуазіі і шляхты. Бальшавікі змагаліся не толькі з жывымі, але і з нябожчыкамі. Былі апаганены мошчы святых, разрабаваны сотні багатых пахаванняў дваран, гандляроў, фабрыкантаў, былых уладальнікаў маёнткаў і замкаў.

Пахавальны абрад рэзка змяніўся. Адпяванне нябожчыкаў у храмах было практычна забаронена. Замест крыжа на надмагільных помніках з'явілася пяціканцовая чырвоная зорка.

У 30—40-х гадах XX ст. на тэрыторыі БССР узнікаюць таемныя масавыя пахаванні ахвяр сталінскага рэжыму. Найбольш вядомымі з іх з'яўляюцца Курапаты пад Мінскам, дзе пахавана ў брацкіх магілах каля 200 тысяч чалавек. Месцы гэтых пахаванняў органы НКУС трымалі ў вялікім сакрэце.

Таксама былі пад вялікай забаронай магілы членаў арміі краёвай, што змагалася на тэрыторыі Заходняй Беларусі як з фашыстамі, так і з бальшавікамі. Пасля вайны фактычна ўсе нямецкія могілкі на Беларусі былі знішчаны.

У 60—70-х гадах вандалы пачалі знішчаць і мясцовыя могілкі ў тых выпадках, калі на іх ужо не праводзіліся пахаванні, а іх тэрыторыя апынулася сярод жылых кварталаў вялікіх гарадоў. У гэты час у Мінску былі знішчаны канчаткова яўрэйскія, татарскія, лютэранскія, праваслаўныя "Старажоўскія" могілкі і старыя дваранскія могілкі каля кінатэатра "Спартак". Дзеці гулялі з чарапамі і косткамі нябожчыкаў, а разбітымі надмагільнымі помнікамі брукавалі дарогі і вуліцы.



У часы хрушчоўскага змагання з рэлігіяй на Палессі, увогуле ў заходняй Беларусі знішчылі практычна ўсе прыдарожныя крыжы і капліцы, устаноўленыя мясцовымі сялянамі. Былі разбураны альбо пашкоджаны надмагіллі мясцовых эліт (святароў і шляхты), пахаваных побач з касцёламі альбо цэрквамі, будынкі якіх былі ўжо каторы раз адабраны ў вернікаў і ператвораны ў спартзалы, клубы ці сховішчы. На дзеючых могілках вандалы-бязбожнікі масава ламалі крыжы, як сімвалы хрысціянства.

Асобная гаворка — пра стан аховы мемарыяльных помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Фармальна, у асноўным на паперы, ахове дзяржавы падлягаюць як помнікі археалогіі — курганы і курганныя групы X—XIII стст., так і шматлікія пахаванні савецкіх салдат, афіцэраў і партызан. Таксама пастаўлены на ахову некалькі дзесяткаў магіл некаторых беларускіх пісьменнікаў, мастакоў і палітычных і культурных дзеячаў. І гэта ўсё. На самай справе ў газетах увесь час ідзе інфармацыя аб шматлікіх масавых актах вандалізму на сучасных могілках, за якія ніхто не караецца.

Даўно настаў час прыняць закон, прысвечаны пахавальнай справе на Беларусі, і адлюстраваць у ім прынцыпы і парадак аховы і выкарыстання ўсіх нашых мемарыяльных помнікаў і комплексаў. Дарэчы, адпаведны закон "Аб пахаванні і пахавальнай справе" прыняты 8 снежня 1995 года Дзяржаўнай Думай Расійскай Федэрацыі (уступіў у сілу з 1 сакавіка 1996 года).

На Беларусі ніякіх заканадаўчых актаў у гэтай галіне няма. Існуюць толькі розныя інструкцыі і іншыя падзаконныя акты.

Новы беларускі закон павінен рэгуляваць адносіны, звязаныя з пахаваннем нябожчыкаў, а таксама прадугледжваць ахову і вывучэнне гістарычных могілак на Беларусі.

Закон павінен устанавіць:

1) гарантыі пахавання нябожчыка з улікам усіх пажаданняў, выказаных асобай пры жыцці, а таксама пажаданняў яго сваякоў;

2) гарантыі атрымання матэрыяльнай і іншай дапамогі для пахавання нябожчыка;

3) санітарныя і экалагічныя патрабаванні да выбару, утрымання і аховы месцаў пахавання;

4) вызначэнне крытэрыяў для аб'яўлення асобных гістарычных могілак помнікамі культуры і гісторыі Беларусі, як унікальных архітэктурна-археалагічных комплексаў;

5) вызначэнне крытэрыяў для аб'яўлення асобных пахаванняў і брацкіх пахаванняў помнікамі гісторыі і культуры Беларусі;

6) стварэнне на Беларусі нацыянальнага ПАНТЭОНА, дзе будуць праводзіцца пахаванні і перазахаванні выдатных людзей нашай Бацькаўшчыны.

Будзем спадзявацца, што ў XXI ст. беларуская дзяржава здолее надаць нашым мемарыяльным комплексам такую ж увагу, якая надаецца такім аб'ектам у цывілізаваных еўрапейскіх краінах.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага універсітэта культуры**

# БЕЛАРУСКАЯ АПАЗЫЦЫЯ ПРАДКАЗВАЕ ЭКАНАМІЧНЫ КАЛЯПС у 2000 годзе.

Нацыянальны Выканаўчы Камітэт — ценявы кабінет Беларусі на чале з Генадзем Карпенкам прыйшоў да высновы, што Беларусь чакае эканамічны каляпс у 2000 годзе. Спэцыяльны рапарт падрыхтаваны спадаром Карпенкам на Кангрэс Дэмакратычных Сілаў, што адбудзецца 29-30 студзеня, паказвае, што афіцыйны лукашэнкаўскі паказчык росту экономікі — падробка, бо фактычна беларуская экономіка штогод падае.

Падчас прэс-канфэрэнцыі сп. Карпенка сказаў, што надыходзячы Кангрэс Дэмакратычных Сілаў прыме рэзалюцыі пра беларускую дзяржаўнасьць, аб'яднаньне дэмакратычных плыняў, правы чалавека і беларускую мову. Ён дадаў, што партыі, якія будуць браць удзел у Кангрэсе ўзгодніглі свае пазыцыі адносна выпрацаваных рэзалюцыяў, паказваючы доказ іх гатоўнасьці і здольнасьці яднацца. Арганізатары спадзяюцца, што замежныя дэлегацыі прыбудуць з 30 краін сьвету на гэты Кангрэс.

* * *

"Беларускі прэзыдэнт" А. Лукашэнка ў сваёй прамове да "беларуска-расейскага парлямэнту" ў Менску 21-га студзеня, сказаў, што аб'яднаньне з Расеяй мусіць стаць "праўдзівым контр-балансам у сёняшнім сьвеце і моцным маторам каб зламаць агрэсыўны трансатлянтыцкі манапалізм". Лукашэнка страшачы амэрыканскім уплывам на глябальную палітыку, дадае, што ўзмацненьне беларуска-расейскага аб'яднаньня дае "гістарычны шанц для захаваньня аб'яднанае славянскае цывілізацыі"... Ён пакрытыкаваў таксама Расею, што яна так марудна падыходзіць да поўнага аб'яднаньня Беларусі і Расеі і выказаў прапанову, каб новым саюзам кіравалі або А. Прымакоў, або Г. Селезьнёў... абодва вядомыя бальшавікі і скрытыя вяікадзяржаўнікі...

# ОБРЕЧЕННЫЙ ЭСКАДРОН

## В 1942 ГОДУ ОНИ МЕЧТАЛИ СОЗДАТЬ НАЦИОНАЛЬНЫЕ БЕЛОРУССКИЕ ВОЙСКА

Тина КЛЫКОВСКАЯ «ИМЯ»

**Если в названии этого материала кому-то и почудится запах пороха гражданской войны, это не будет ошибкой. «Великая Отечественная война советского народа против фашистских захватчиков» на территории Западной Беларуси — бывших «Крестах Усходних» — носила во многом характер войны гражданской. Противоречия этой кровавой эпохи, следы которой протянулись на многие десятилетия, обернулись изломанными судьбами десятков тысяч людей. Безымянные могилы одних сровнялись с землей в вечной мерзлоте страны под названием ГУЛАГ; места вечного успокоения других участников тех событий разбросаны по всему миру — от Канады до Аргентины, от Австралии до Западной Германии. Когда умирали их матери, оставленные на своей Родине как матери пособников фашистов, бывшие «коллаборанты» или погибали в лагерях, или питались скудным эмигрантским хлебом, по-прежнему веря в свое предназначение, отстаивая перед послевоенным западным миром право на свободу навсегда потерянной для них Родины. Родины, за которую они сражались и были побеждены.**

Вторая мировая война до самых корней сотрясла уклад жизни белорусского народа, оказавшегося между двумя нечеловеческими режимами, народа, для которого война началась в 1939, а не в 1941 году. Сменившая польскую оккупацию оккупация большевистская, отступившая вскоре перед махиной оккупации немецкой, не успела сделать «советскими» здешних людей. Накануне вторжения гитлеровцев газета «Белорусский фронт», издаваемая ксендзом Винцентом Годлевским, сообщала о настроениях масс: «При первой же возможности люди бросились бы с объятиями к каждому, кто искренне или неискренне бы пообещал лучшую долю, а при известном примитивизме нашей деревни влияние могут оказать и коммунисты, и фашисты, и монархисты». Более того, примиренческие отношения СССР с Германией накануне войны привели к тому, что антигитлеровской пропаганды не велось вообще, население не имело представления о зверствах вермахта, оно психологически нейтрально встретило фашистскую оккупацию, основывая свои взгляды лишь на личном опыте, в том числе и на впечатлениях от неприглядной советской действительности. И в 1941, и в последующие годы поступками населения руководила одна идея — выжить.

На Нюрнбергском процессе шеф главного ведомства СС, а с лета 1943 года фактический руководитель восточной политики Германии Готлиб Бергер говорил о том, что Беларусь — это «земля, где, к сожалению, нельзя было понять, где была правда, а где — фикция». Ему вторит американский историк, исследователь фашистского геноцида в СССР Джералд Райтлингер, утверждающий, что в Беларуси с приходом солдат вермахта была развязана гражданская война и на переживающей очередную оккупацию территории воцарился «закон джунглей».

Тот факт, что большая часть Беларуси оказалась под управлением гражданской администрации, возглавляемой Вильгельмом Кубе, на первых порах сыграл свою роль в завоевании симпатий населения. Крестьяне использовали приход немцев для роспуска колхозов, интеллигенция, преимущественно педагогические кадры, — для воспитания целого поколения юных белорусов, в полной мере осознающих свою национальную принадлежность. В этом им способствовал акт от 10 сентября 1941 года об обязательном посещении школ детьми от 7 до 14 лет, первый гражданский акт, подписанный В.Кубе в качестве наместника в Белоруссии. Учителя, в большинстве своем выпускники Виленской гимназии, ухватились за эту инициативу с единственной целью: учить. «Войной не оправдать невежество, жизнь молодых не должна проходить в потемках» — такие настроения бродили тогда в среде малочисленной еще белорусской интеллигенции. Поддержало ее и большинство российских учителей, приехавших в Западную Беларусь в 1939 году и не успевших эвакуироваться. Новогрудчина стала одним из тех мест, где школьное дело практически сразу пошло в гору. Удалось уговорить власти открыть школы в Любче, в самом Новогрудке. Частично проблему кадров решили шестимесячные учительские курсы, одновременно были открыты прогимназия и учительская семинария. Организаторами школ выступили известные учителя — Петр Скрабец, братья Плескачи, Александр Орса и его жена Наталья. Вскоре после начала войны к ним присоединился бывший офицер польской армии Борис Рогуля. Он-то и создаст знаменитый конный эскадрон, о котором с душевным трепетом по сей день вспоминают уцелевшие в жерновах репрессий бывшие его бойцы и просто свидетели тех событий.

«Главное, чего хотел Рогуля, — взять оружие, а там уже смотреть по обстоятельствам, что с ним делать», — вспоминает бывший учитель военной поры Михаил Кожич, освобождавший позже Европу, но тоже не избежавший ГУЛАГа. (В 1989 году он встретился в Торонто с бывшим своим наставником Борисом Рогулей, ныне прославленным врачом, профессором одного из престижнейших канадских университетов). Из-за разного к этому отношения у Александра Орсы были споры с Рогулей. «Не трогайте молодежь», — настаивал Орса, а Рогуля возражал: «А кто же будет защищать деревню?»

Защищаться между тем было необходимо. Равно лютовали, по воспоминаниям другого «эскадроновца», Евгения Усюкевича, и немецкие каратели, и литовцы-полицаи, и «лесные бандиты», и забредавшие на Беларусь казацкие рейды. От партизан защищаться приходилось в той же степени, что и от немцев, поскольку те не брезговали ни грабежом, ни зачастую бессмысленными «карательными акциями». Михаил Кожич рассказывает, что с самого начала его преподавательской работы в родной деревне Полберег партизаны частенько наведывались в школу, заходили на уроки - следили, нет ли немецкой пропаганды. Ее не было, как не было, впрочем, и пропаганды большевистской. «Неизвестно, что будет дальше, как повернется война, а нам в любом случае не надо ни немцев, ни Советов, и детей в политику путать не надо», — наставляли Кожича пожилые учителя. Сожгли школу партизаны только в 1944 году, правда, учителя не тронули, а лишь мрачно пошутили на прощание: «Тебя с собой не зовем, ты водки не пьешь, ступай себе в город, только за оружие не берись». Нечто подобное рассказывает и о Борисе Рогуле Евгений Усюкевич: «Уже будучи одновременно преподавателем гимназии и командиром конного эскадрона, он не был против, если кто-то из наших уходил в партизаны, говорил: что ж, бери оружие и иди, только воюй за Беларусь. Но дома не сиди, потому что придут и убьют хоть немцы, хоть партизаны».

Выражение «кровь — не вода, а Бог — не теля» полностью утрачивает свой смысл тогда, когда линия фронта проходит не только между окопами войск враждующих держав, но и между околицами деревень, между отцом и сыном, когда кровавый разлом раздирает сердце человека. И тогда мирное «кем быть?» превращается в растерянное «с кем быть?» Беларусь, БССР, Белорутения. Какое будущее уготовила судьба этой земле, в те годы не знал никто. И каждый воевал — ведь во время войны сражаются не только оружием, но и хлебом, и словом — за то будущее, в которое искренне, всей душой верят.

Основной контингент конного эскадрона составили студенты учительской семинарии. Большей частью он был нужен для уравновешивания сил, для защиты близлежащих деревень от свирепствующих «зондеркоманд» и набегов из леса. Выдавшие отряду какое-то количество оружия немцы хотя и не слишком считались с его руководством, все же видели в эскадроне некую гарантию от партизанских вылазок, хотя в действительности стычки с партизанами случались у «рогулевцев» крайне редко. Происходили они обычно, когда совершающий в послеучебное время патрульные экспедиции эскадрон слишком отдалялся от Новогрудка. На открытое столкновение партизаны не шли, обычно ограничивались обстрелами отряда с немедленным отступлением. Зато по деревням вели жесткую пропаганду, под страхом смерти запрещая молодым парням идти в «рогулевцы». Но молодежь в эскадрон шла, не в последнюю очередь благодаря обаянию и авторитету самого Бориса Рогули, любимца всей учительской семинарии, преподавателя гимнастики и немецкого языка. «Подобного ему столь обаятельного молодого человека я больше не встречал, — вспоминает еще один тогдашний студент учительской семинарии Константин Романович. — Все юноши семинарии ему старались подражать, для всех он был кумиром, каждое сказанное им слово мы встречали с куда большим доверием, чем пропаганду из леса или немецкие прокламации. Им восхищались все, кто тогда его знал. Блестящий молодой офицер, он был неистовым патриотом Беларуси, и мы, подростки, шли за ним, готовые воевать за Беларусь. Я не пошел за ним лишь однажды, когда в 1944 году, уже перед самым приходом Красной Армии, Борис Рогуля, вернувшись с Виленщины (как я полагаю, за тем, чтобы проститься с Новогрудком и забрать свою невесту, нашу студентку Люду Гутар), построил нас на Замковой горе, где когда-то мы давали присягу, и предложил: кто остается с ним — уходим на Запад с немецкими частями, остальные могут идти к родителям. Он предупреждал — от Советов вряд ли мы дождемся добра. Я тогда посмотрел вокруг и понял, что никуда с родной Новогрудчины мне не уйти...» (К.Романович дважды прошел адовы круги сталинских лагерей, как и другой его земляк, поэт из Новогрудка Самсон Перлович, тоже бывший «эскадроновец»).

Сам Борис Рогуля, уроженец Любчанского района, племянник известного в те времена общественного деятеля, депутата польского сейма, в первые дни после вторжения гитлеровцев в Польшу оказался в плен, бежал и снова оказался в тюрьме, на этот раз в советской, в печально известной «американке» попал по подозрению в шпионаже. С приближением немцев к Минску НКВД устроило «чистку» тюрьмы, отправляя «политических» на расстрел, «бытовиков» — в эвакуацию. Рогуле удалось сойти за «бытовика» и снова бежать, воспользовавшись случаем: конвоируемый грузовик с заключенными попал под немецкую бомбежку и в наступившей сумятице части «бытовиков» удалось под пулями скрыться в ближайшем лесу. С открывшимся туберкулезом бывший офицер добрался до Любчи, а вскоре, подлечившись, начал работу по подготовке молодых белорусских кадров...

Особо мощную закваску белорусскости получили воспитанники семинарии в летнем лагере 1943 года, торжественно открытом Рогулей при поддержке местной администрации. Разучили к этому дню множество только что написанных белорусских песен (годы спустя они зазвучат в репертуаре Данчика), подняли бело-красно-белый флаг, и поднимали его ежедневно, маршем отправляясь по улицам Новогрудка на всевозможные строительные работы. И лагерь и эскадрон дали подросткам уроки веры в свою землю, которых им хватит на всю оставшуюся жизнь, даже когда эта земля не сможет защищать своих сыновей.

Далеко не все тогдашние белорусские активисты и представители администрации разделяли позиции Рогули в вопросах будущности Беларуси. Иных, к примеру лидера Союза белорусской молодежи Михаила Ганько, раздражали взгляды Рогули и прочих «незалежников», не признававших необходимость немецкого участия в обустройстве белорусской внутренней инфраструктуры, армии и т.д. Бывший семинарист Александр Ракович, встречавшийся с Ганько на курсах для активистов в Альбертине, вспоминает, что речи последнего шли часто дальше того, что внушали на занятиях подросткам Рогуля и другие учителя, призывали «жалеть немецкую кровь». Спросив однажды у семинариста Раковича, как тот смотрит на будущее Беларуси, и услышав в ответ «через призму белорусской идеи», остался недоволен: «Это все вам ваш Рогуля вкладывает, вот Украина тоже хотела независимости, а в результате уже почти занята вся Красной Армией».

В 1943 году президент Белорусской центральной рады Р.Островский объявил локальную мобилизацию в Белорусскую краевую оборону. Результаты ее (очень скоро численность призывников достигла 50 тысяч человек) показали — не желая вновь оказаться под большевистской пятой, часть крестьян готова пойти под национальные лозунги и даже в определенной степени поспособствовать терпящим поражение немцам. Но сами гитлеровцы так и не решились снабдить БКО оружием, бросив вскоре сформированные батальоны на произвол судьбы. В составе БКО оказался и новогрудский конный эскадрон. Но принять участие в какихлибо боевых действиях он не успел: немцы объявили о роспуске БКО, и часть «эскадроновцев» вместе с другими отступавшими осколками БКО потянулась на Запад. Судьба многих бывших бойцов эскадрона сложилась трагично — они погибли под бомбежками, не достигнув пределов Германии.

Оказавшись в Берлине, Борис Рогуля в чине майора какое-то время выполнял функцию связного между 30-й дивизией Зиглинга, куда включили часть отступившей БКО, и Белорусской центральной радой, но на него практически не обращали внимания, а излишняя самостоятельность могла привести к трагическому концу, — повторению судьбы другого белорусского патриота, капитана БКО Виталия Микулы, убитого немцами в Дахау. Позже, когда быстрое наступление Красной Армии вынудило лидеров БЦР начать подготовку к деятельности в эмиграции и в Раде развернулась кулуарная борьба, Борис Рогуля и Вячеслав Родько встали в центр партии «незалежников», имеющей широкий актив вне БЦР и готовящейся сделать ставку на «заброс» в Беларусь людей, способных консолидировать там остатки БКО. Жива была надежда на то, что, одержав победу над фашизмом, союзники объявят войну большевизму. Как показало время, планы эти оказались нежизнеспособными, и год спустя Борису Рогуле пришлось направить свои организаторские способности на помощь в послевоенном обустройстве эмигрировавшей белорусской молодежи.

В Берлине же солдат-белорусов немецкое командование поначалу разбросало по различным воинским частям, но, поскольку нежелание бойцов БКО воевать под немецким руководством было очевидно, в 1944-45 годах командование Ф.Кушеля, вместе с ведомой генералом Мальцевым частью Русской освободительной армии, сдались союзникам, по предварительному договору с американцами, в горах Шварцвальд. Большинство военнопленных это не спасло от ГУЛАГа: не желая обострять отношения с СССР, союзники сначала в зверских условиях содержали сдавшихся в плен, а затем в одно прекрасное утро в лагере появились НКВДисты с собаками. Бежать на Запад удалось немногим, некоторые покончили с собой прямо в лагере со словами «Жыве Беларусь!» Единственно возможный способ спастись — записаться поляком по национальности и остаться на какое-то время в американской оккупационной зоне — люди, отдавшие душу Беларуси, использовать не стали. Для союзников же понятия «белорус» на тот момент не существовало...

У нас принято говорить о так называемых волнах эмиграции. Первая — послереволюционная, вторая — послевоенная, третья, которая Беларусь почти не затронула, — диссидентская. «Девятый вал» белорусской эмиграции пришелся на 1945 год, год, в котором одни патриоты Беларуси восстанавливали разрушенное войной, а другие, унося с собой щепотки родной земли, отплывали в далекие страны, названия которых раньше слышали только на уроках географии. И неизвестно, кто из них подлинные патриоты: старики с орденскими планками, шагающие каждый год по главному проспекту белорусской столицы, или фермеры, адвокаты, профессора, в паспортах которых нет «пятой графы», но которые, в отличие от многих жителей Беларуси, знают свое имя.

Время все расставляет на свои места. И если мы хотим видеть полную и беспристрастную картину нашей истории, мы должны руководствоваться не только фактами, которые любая из сторон может подать тенденциозно, но и анализом этих фактов с точки зрения прошлого, настоящего и, разумеется, будущего...



*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

# Настальгія

*Народная Воля*

Апошнім часам усё часцей кіраўнікі рэспублікі выказваюць шкадаванне з выпадку развалу былога Савецкага Саюза. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка пры кожным зручным выпадку асуджае пагадненне ў Віскулях і нагадвае слухачам і тэлегледачам імёны тых, хто яго падпісаў. Камуністычная фракцыя Дзяржаўнай Думы Расіі, рыхтуючыся да імпічменту прэзідэнту, лічыць, што Барыс Ельцын здрадзіў краіне, падпісаўшы пагадненне ў Віскулях у 1991 годзе.

Кіраўнікі Беларусі распад СССР асуджаюць не толькі з прычыны настальгіі па былых часах, але і з намерам патлумачыць сучасны крызіс эканомікі разрывам гаспадарчых сувязей. Ды і пэўныя групы насельніцтва таксама смуткуюць па былым ладзе жыцця.

"Настальгісты" не толькі сумуюць па былой імперыі, але і дзейнічаюць. Вакол Беларусі групуюцца адыёзныя сілы Расіі. Паасобку і групамі прыязджаюць "чырвоныя губернатары". Праводзяцца ўсялякія парламенцкія сесіі, славянскія базары і г.д. Ёсць імкненне надаць эканамічнай інтэграцыі палітычны змест.

Але ці ёсць падставы для настальгіі па былым? Выпадковым ці не быў распад СССР? І наогул, ці так добра жылося людзям у той час, як гэта спрабуюць паказаць адэпты былой сістэмы?

Адразу зазначым глыбокую памылковасць тых, хто думае, што Савецкі Саюз распаўся выпадкова, па волі, як цяпер іранічна выказваюцца, "белавежскіх зуброў". Прабачце, але гэта можа выклікаць толькі іранічную ўсмешку. Агульнавядома, што да віскулёўскіх пагадненняў Расія, паводле рашэння свайго Вярхоўнага Савета, выйшла з Саюза, а на Украіне адбыўся рэферэндум, які выказаўся за незалежную Украіну. Так што Саюза ўжо не было, ён распаўся. І распаўся, у першую чаргу, па эканамічнай нямогласці. ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР за пасляваенны час прынялі 22 пастановы па ўкараненні навукова-тэхнічнага прагрэсу. І ніводная з іх не была выканана. Які больш мацнейшы можа быць доказ неэфектыўнасці сацыялізму?!

Савецкі Саюз пачаў адставаць у эканамічным плане. Спачатку Нямеччына, а потым і Японія абышлі яго па агульным аб'ёме вытворчасці.

Савецкі Саюз распаўся таму, што над эканомікай дамінавала палітыка, якая ніколі не лічылася з эканамічнай мэтазгоднасцю. Ствараўся адзіны народнагаспадарчы комплекс замест таго, каб утвараць рэгіянальныя комплексы. Усё рабілася дзеля таго, каб прывязаць нацыі эканамічна да савецкай эканомікі, зліквідаваць іх і ператварыць у міфічную еднасць "савецкі народ", карацей кажучы — у паслухмяны натоўп.

Узорам такой палітыкі можа быць наша шматпакутная Беларусь. Яе ператварылі ў зборачны цэх. Між іншым, замест таго, каб арганізаваць глыбокую перапрацоўку наяўнай сыравіны і задзейнічаць тыя карысныя выкапні, якія і да гэтага часу ляжаць у нетрах беларускай зямлі некранутымі. Прымацавалі Беларусь да Расіі і двума магутнымі трубаправодамі да Наваполацка і Мазыра. І ніхто не лічыўся з велізарнымі перавозкамі сыравіны і вырабаў на далёкую адлегласць. 400 тысяч вагонаў штодзённа каціліся з грузамі ў розных кірунках. У выніку, Савецкі Саюз выrабляў прадукцыі ў два разы меней за Злучаныя Штаты Амерыкі, а чыгунка перавозіла грузаў у два разы болей. Як у той казцы: "вазіць вам, не перавазіць".

І гэта ў той час, калі на Захадзе была распрацаваная і ўжывалася эканамічная тэорыя, паводле якой эфектыўней развіваць вытворчую каапарацыю, весці ўнутраныя перавозкі на абмежаваную адлегласць. Бо пра якую эфектыўнасць можна весці гаворку, калі перавозкі вяліся і вядуцца на тысячы кіламетраў? Вобразна кажучы, і зараз пад коламі знікае прыбытак многіх прадпрыемстваў. Безумоўна, гэтага не было б, каб развіваліся рэгіянальныя гаспадарчыя комплексы. Але тады развіваліся б і мацнелі нацыі, што не падыходзіла "крамлёўскім летуценнікам".

Няхай хто-небудзь з сумуючых па Савецкім Саюзе назаве хоць адзін факт вырашэння якой-небудзь праблемы на саюзным узроўні. Многа разоў ставілася жыллёвая праблема — засталася нявырашанай. На Беларусі і сёння 600 тысяч чаргавікоў на атрыманне жылля. Шмат разоў абвяшчаліся харчовыя праграмы — таксама засталіся невырашанымі. Дзесяткі мільёнаў тон збожжа закупляліся за мяжой штогод. Спрабавалі павесці барацьбу з алкагалізмам — зноў правал. І так ва ўсім.

"Настальгістам" па былым варта напомніць, што Савецкі Саюз не знік, ён існуе ў скарочаным, так бы мовіць, сціснутым варыянце ў Расійскай Федэрацыі, дзе трэць насельніцтва не рускія. Дык хіба сёння ў Расіі вырашана нацыянальнае пытанне? Нявырашана. Варта згадаць Чэчню, Татарстан, Башкарстан, Дагестан і іншыя краіны, якія не маюць самастойнасці. Пра крызіс эканомікі няма і гаворкі, пра што сведчыць сённяшні фінансавы крызіс. Тыя ж праблемы, што і ў былым Савецкім Саюзе. Заўзятыя рэстаўратары былой звышдзяржавы няхай навядуць парадак у сваім скарочаным Саюзе, перш чым заклікаць да аднаўлення згніўшага на корані кангламерата. Па ўсім бачна, што Расія можа мець і свае ўласныя Віскулі, калі народы не атрымаюць абяцанага палітычнага і эканамічнага самавызначэння.

Ну а людзі? Ці ёсць ім пра што шкадаваць? Няўжо забыліся, якія былі чэргі за каўбасой, абуткам?.. А зарплата. Рабочы-амерыканец атрымліваў у сярэднім 2000 долараў у месяц, а савецкі рабочы ў сярэднім — 120—140 за такую ж працу. Чаму не 800, не 1000 долараў, што адпавядала аб'ёму вытворчасці? Адказ просты: усё ішло на ваенна-прамысловы комплекс, бо падтрымліваць павагу да сябе Савецкі Саюз мог толькі праз ваенную моц. Беларусь была ўсеяна расійскімі гарнізонамі, якія трэба было ўтрымліваць, а вайскоўцаў — карміць. На тэрыторыі Беларусі дзейнічала больш за 200 буйных прадпрыемстваў ваеннага прызначэння.

Так, сёння насельніцтва жыве горш, чым 10 год таму. Але чаму так здарылася? Людзі не хочуць ці не могуць з-за адсутнасці аб'ектыўнай інфармацыі бачыць, што адбываецца наўкола. Напрыклад, чаму настальгіі аб мінулым няма ў Літве, Латвіі і Эстоніі, якія пры савецкім часе былі на аднолькавым з Беларуссю ўзроўні эканамічнага развіцця? Проста таму, што там паляпшаецца з году ў год жыццё людзей. У нас сярэдняя зарплата не дасягае і 70 долараў, а там — 200 долараў і болей, хоць цэны на многія рэчы ў суседзяў ужо ніжэйшыя. Адпаведна і пенсіі там большыя. Вось і ўвесь сакрэт настальгіі ў нас і адсутнасці яе ў прыбалтаў.

Гадамі не павышалася заработная плата настаўнікам, урачам, служачым. Ды і з чаго было павышаць яе, калі дэфіцыт агульнасаюзнага бюджэту ў апошні год існавання Саюза дасягаў каля 200 мільярдаў рублёў? Між іншым, на яго пагашэнне пайшлі ўсе зберажэнні народа, вярнуць якія людзям не ўдалося да гэтага часу ні ў Расіі, ні ў нас. Да таго ж, у былым Саюзе Беларусь у ліку іншых рэспублік была даннікам. Цэнтр забіраў звыш 12 мільярдаў долараў нацыянальнага даходу, і ў тым ліку, як нядаўна пацвердзіў Аляксандр Лукашэнка, чысты вылік штогод складаў 2 мільярды долараў.

Іншая справа, чаму не расце жыццёвы ўзровень зараз, спараджаючы настальгію па былым. А не расце ён найперш таму, што зроблены паварот да ранейшай неэфектыўнай эканамічнай сістэмы і аднаўляюцца старыя сувязі з рэгіёнамі Расіі. Падкрэслім — старыя, а не новыя. Значыць, рэструктурызацыя эканомікі не ідзе і не прадбачыцца. Па-другое, на людзей усклалі непамерны цяжар утрымання велізарнага міліцэйскага корпуса і войска. У разліку на 90 чалавек насельніцтва ў нас утрымліваецца два чалавекі са зброяй. Нельга назваць ніводнай мілітарызаванай краіны, дзе б у разліку на адзінку насельніцтва ўтрымлівалася такая колькасць вайскоўцаў. Інакш як жыццём не па кішэні гэта не назавеш. А плюс да гэтага выдаткі на ўсялякія пыхлівыя святкаванні, парады, спеўныя базары, паездкі ў Нагана і г.д. Таму падаткі мацнеюць. За паўгодзе ў бюджэт паступіла 93,6 трыльёна рублёў, або 41 працэнт ВУП. Для параўнання: у багатых ЗША на падаткі ідзе толькі 28% ВУП.

Узнікае нерытарычнае пытанне: адкуль жа ўзяць сродкі для павышэння даходаў насельніцтва і як не быць настальгіі па мінулым?

***

І ў якасці прагнозу: у далейшым Беларусь не зможа вытрымаць непамерных выдаткаў на ўтрыманне міліцэйскага корпуса і вайскоўцаў. Хоча гэтага прэзідэнт ці не, усё роўна давядзецца іх рэзка скараціць.

**З газэты:** «Дзіўны наш народ. Дужы і сумны. Меў герояў — і ніхто іх ня ведае... Усё жыцьцё любіў волю — і яго прымусілі стаць рабом... Стварыў багацьце культуры — і сам яе ня ведае...»

Падаецца да ведама наш e-mail address:
**bdigest@iserv.net**



## Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...

| | | |
|---|---|---|
| 87. Беларускі Грамадзкі Цэнтр у Саўт Рывэр | | $100.oo |
| 88. Жорж Наумчык | | $20.oo |
| 89. Міхась Сенько | | $20.oo |
| 90. Віталі Цярпіцкі | | $20.oo |
| 91. Л. Шурак | | $10.oo |
| 92. Лявон Касоўскі | | $20.oo |
| 93. Надзя Занковіч | | $10.oo |
| 94. Вера Навіцкая | | $50.oo |
| 95. Мікола Вайтовіч | | $50.oo |
| 96. Р. Нафрановіч | | $50.oo |
| 97. С. Сарока | | $50.oo |
| 98. П. Малез | | $4.oo |
| 99. Д. Врайт | | $5.oo |
| 100. А. Папенко | | $20.oo |
| 101. Г. Стропко | | $10.oo |
| 102. В. Нафрановіч | | $20.oo |
| 103. С. Гарбачук | | $10.oo |
| 104. В. Нафрановіч | | $100.oo |
| 105. Н. Ракуць | | $100.oo |
| 106. М. Анрэнс | | $5.oo |
| 107. Г. Шлоба | | $50.oo |
| 108. Л. Міллер | | $25.oo |
| 109. В. Грышчук | | $40.oo |
| 110. Т. Шуляка | | $20.oo |
| 111. С. Гэлен | | $5.oo |
| 112. Я. Валюкевіч | | $20.oo |
| 113. С. Кузьміцкі | | $20.oo |
| 114. Т. Грын | | $10.oo |
| 115. Уладзімір Ракуць | | $50.oo |
| 116. Мікола Марачкін | (Беларусь) | $20.oo |
| 117. Лерры Гроггель | | $25.oo |
| 118. Мікола Прускі | | $100.oo |
| 119. Эрль Гоер | | $20.oo |
| 120. Анна Брушкевіч | | $30.oo |
| 121. Др. Барыс Рагуля | (Канада) | $50.oo |

Прадаўжэньне Л і с т ы ахвярадаўцаў у наступных №№ газэты. Просім нашых чытачоў, якія не ахоплены Зборнымі Лістамі, прысылаць свае ахвяраваньні асабіста на наш адрас... Дзякуем!








"Беларусь" Маляваў Алег Папоў




●

— Пятрок, ты чуў? Указ ёсць, судзіць будуць за самагонку, хто гоніць.
— Я гнаў, ганю і буду гнаць.
— Дык жа засудзяць, пасадзяць!
— То сын будзе гнаць.
— І сына пасадзяць!
— Дык унук жа ёсць!
— І ўнука!
— А к таму часу і я ўжо вярнуся.